# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 49 (251) | ГОД VI | БЕЛАСТОК 3 СНЕЖНЯ 1961 ГОДА | ЦАНА 60 ГР.




НА КАНЦЭРЦЕ «ЛЯВОНІХІ» Фота Г. Рагазінскі

НАШЫ ІНТЭРВ'Ю

**Яе велічыня: 1—4 МІКРОНАЎ.**
**На яе хварэе: 600.000 АСОБ У КРАІНЕ.**
**Яна каштуе: 2.500.000.000 ЗЛОТЫХ У ГОД.**

## АБ ЧЫМ КОЖНЫ ПАВІНЕН ВЕДАЦЬ

У нашай краіне туберкулёз, як хвароба грамадская, лечыцца бясплатна.

Аднак барацьба з маленькай бацылай цяжкая. І нашы лекары часта нервуюцца, што вынікі не заўсёды задавальняючыя. Чаму?

Вялікая доза віны і твая, чытач, і твайго суседа, усіх жыхароў тваёй вёскі і аколіцы.

Туберкулёз — хвароба скрытая, і хворы, асабліва з вёскі, ідзе да лекара, калі ўжо выхудне, калі плюе крывёй і... калі ўжо заразіў іншых.

Таму абавязкова прачытай змешчаную ніжэй размову з **Ваяводскім спецыялістам па справам туберкулёзу, кіраўніком туберкулёзнай клінікі Акадэміі Медычнай у Беластоку дацэнтам доктарам медыцыны УЛАДЗІСЛАВАМ ПРЭНГОЎСКІМ.**



**— Згодна з асновай: лепш туберкулёз прадухіляць, чым яго лячыць, просім Вас, прафесар, пералічыце нам галоўныя пункты, аб якіх ніхто не павінен забываць.**

— Асноўныя метады прадухілення гэта: неабходнасць прымаць супрацьтуберкулёзную прышчэпку, рабіць прасвятленні і малаабразныя здымкі, звяртацца за парадай у супрацьтуберкулёзныя амбулаторыі альбо да лекара - спецыялісты, асабліва ў выпадку дрэннага самаадчування, начных потаў, аслаблення арганізма, кашлю, асабліва сплёўвання крывёй, ці павышанай тэмпературы цела. Прызнакі гэтыя не заўсёды могуць быць звязаны з туберкулёзам, але такімі бываюць першыя, малапрыкметныя прызнакі туберкулёзу і таму праверыць не пашкодзіць.

І яшчэ адзін момант, асабліва важны на вёсцы. Каровы, якія заражаюцца ад хворага чалавека, разносяць бацылы між сабой, а потым, праз заражанае малако і праз кашаль, заражаюць людзей. Таму спажываць малако трэба толькі пераваранае. Адносіцца гэта асабліва да нованароджаных і малых дзяцей.

**— Як першы пункт у прадухіленні туберкулёзу Вы назвалі супрацьтуберкулёзную прышчэпку. Мо' шырэй аб ёй.**

— Супрацьтуберкулёзная прышчэпка забяспечвае ў вялікай меры ад захворвання на туберкулёз, але трэба яе паўтараць. Такія прышчэпкі праводзяць цяпер пункты аховы здароўя ў вёсках і гарадах. Прышчапляваць трэба

(Працяг на стар. 5)

## ШМАТ АБЯЦАЮЧЫ ЮБІЛЕЙ

15 лістапада г. г. у памяшканні ГП БГКТ адбылося скромнае святкаванне гадавой дзейнасці эстраднага калектыву «Лявоніха». Апрача членаў эстрады, ва ўрачыстасці прыняло ўдзел кіраўніцтва ГП БГКТ, а таксама прадстаўнікі культурнай грамадскасці Беластока і ваяводства. У дакладзе, зробленым сакратаром ГП БГКТ Уладзімірам Ювзюком, адзначалася вялікая актыўнасць эстрады і ўзрастаючы з кожным месяцам узровень яе. На працягу года «Лявоніха» дала 269 канцэртаў, большасць з іх прыпадае на аддаленыя вёскі Беласточчыны. Гэта несумненна вялікая заслуга нашых маладых артыстаў. З выпадку юбілею старшыня ГП БГКТ Лідзія Бялецкая ўручыла ўдзельнікам эстрады рэчавыя ўзнагароды.

Цешыць гэты юбілей. Гадавыя вынікі працы «Лявоніхі» даюць добры прагноз на будучыню. Ад шчырага сэрца жадаем нашым таленавітым артыстам новых поспехаў!

## WYMIANA = АБМЕН

М. КУРАШ

Памятаю, з якой вялікай радасцю студэнты-беларусы, пражываючыя ў Варшаве, успрынялі вестку аб тым, што праф. др Антаніна Абрэмбска-Яблонска заініцыявала апрацаванне польска - беларускага слоўніка. Гэта было ў 1955 годзе. Не існавала яшчэ тады кафедра Беларускай філалогіі пры Варшаўскім універсітэце. Але былі ўжо тады яе пачаткі. Прыехала з Мінска праф. Фідроўская і наладзіла чытанне лекцый па беларускай граматыцы. Лекцыі слухалі перш за ўсё студэнты - беларусы, што вучыліся ў той час на рускай філалогіі Варшаўскага універсітэта. Адным з іх быў ніжэй падпісаны.

Усе пачынанні навуковых зносін з БССР нараджаліся ў той час у Польска - Савецкім Інстытуце на вул. Фоксаль. Тут пачаўся таксама першы перыяд працы над апрацаваннем польска-беларускага слоўніка. З праф. др А. Абрэмбскай - Яблонскай супрацоўнічалі з нашай групы: Ларыса Гутнік, Барыс Мерынг, Лідзія Галевінская, рэд. ПЗВС Балеслаў Манкевіч, а ў 1956 годзе далучылася мгр Лідзія Базылюк.

Група гэтых людзей пад кіраўніцтвам праф. Яблонскай падрыхтавала паасобныя словы ў дзвюх мовах: польскай і беларускай.

Больш складаным быў другі перыяд працы над слоўнікам, у якім апрацоўвана фразеалогію. Але другі перыяд праходзіў ужо ў рамках навукова - практычнай працы кафедры Беларускай філалогіі пры Варшаўскім універсітэце. З дапамогай праф. Яблонскай прышоў мовавед праф. Бірыла з Мінска. Гэтая пара выдатных прафесараў працуе над слоўнікам па сённяшні дзень. І пад іх рэдакцыяй слоўнік выйдзе з друку.

Польска - беларускі слоўнік будзе мець каля 40 тысяч слоў, не ўлічваючы фразеалогіі. А трэба адзначыць, што слоўнік будзе багаты таксама фразеалогіяй у абодзвюх мовах.

Рукапіс слоўніка праф. др А. Абрэмбска - Яблонска здала ў навуковае выдавецтва «Ведза Повшэхна» ў Варшаве яшчэ летам 1959 г. Наступіў трэці перыяд працы над слоўнікам — карэкта гранак.

Карэкту робяць праф. Яблонская і праф. Бірыла. Праф. Бірыла ж у Мінску. Яму пасылаюцца туды гранкі да карэкты. Як у аднаго, так і ў другога прафесара шмат прафесіянальнай і навукова - даследчай працы. Карыстаючыся толькі вялікай ветлівасцю з боку праф. А. Яблонскай я мог сустрэцца з ёю і даведацца

(Працяг на стар. 4)



— Што нам канцэрт гэты гатовіць? — парафразуючы пушкінскія радкі, хвалюецца перад выступленнем спявак Янка Блізнюк (справа)

— Спакойная галава! — падбадзёрвае цёску акардэаніст Янка Гарчыца

(Чытай на стар. 3 «Прыехала «Лявоніха»)



Тры эстрадныя птушкі, Люба Томчык, Валя Сянкевіч і Ніна Свентахоўская, ствараюць цудоўную сімфонію галасоў. Акардэон Янкі Гарчыцы заўсёды суправаджае неразлучную тройку

# ПРЫЕХАЛА „ЛЯВОНІХА"

Калі год таму назад была арганізавана беларуская эстрада «Лявоніха», розныя галасы былі на гэтую тэму.

Былі нават некаторыя скептыкі, якія лічылі, што эстрада не апраўдае сябе, бо яна не тыповая для нашага асяроддзя.

Шлях, які на працягу года прайшоў малады, таленавіты калектыў «Лявоніхі» раз на заўсёды перакрэсліў такія меркаванні.

Сапраўды гэта быў працавіты і не заўсёды лёгкі шлях. За час свайго гадавога існавання «Лявоніха» дала звыш 250 канцэртаў. Асноўную большасць іх, бо аж 227, «Лявоніха» дала ў вёсках Беласточчыны. На канцэртах «Лявоніхі» пабывала звыш 50 тысяч гледачоў. Эстрада наведала самыя адлеглыя закуткі Беласточчыны. Для яе не былі перашкодай ні кепскія дарогі, ні пляга, ні мароз. Бывалі выпадкі, што засмоктаны балотам «Зіс», якім «Лявоніха» даязджае ў вёскі, не мог крануцца з месца. Тады прыходзілі людзі з вёскі і разам з артыстамі, пры дапамозе лябёдак выцягвалі яго на лепшую дарогу і канцэрт адбываўся. Перамерзнутых, неаднойчы, да костачкі артыстаў, як звычай, абаграваў цёплы прыём насельніцтва вёскі. Жыхары нашых вёсак вельмі чулыя на задушэўную песню, або на трапнае сатырычнае слова. А з іх жа ў асноўным і складаецца праграма «Лявоніхі».



— Дык ты, я бачу, у цемры зусім з глузду з'ехаў! — бічуе лекара - бюракрата эстрадны канферансье Люба Томчык у маналогу «Хворая».

Але не заўсёды гледачы патрапяць адпаведна сябе весці ў зале. Бываюць людзі п'яныя, і ў час канцэрту робяць грубыя заўвагі, хуліганяць. Менавіта з гэтага боку найбольш прыкрасці далі эстрадзе некаторыя жыхары Герасімавіч у Дуброўскім павеце. І хоць выпадкі такія бываюць рэдка, усё ж такі вельмі непрыемна адчуваеш сябе пры наяўнасці такіх бескультурных паводзін людзей.

— Найлепшыя ўражанні засталіся ў нас, — гавораць удзельнікі эстрады, — з выступленняў у вёсцы Толчэ, Лапскага павета. Там нас так цёпла, культурна і ветліва прымалі, што мы ў любы час да іх паехалі б.



— Хутчэй бы паглядзець гэтую «Лявоніху»

За час свайго кароткага існавання «Лявоніха» патрапіла здабыць любоў і аўтарытэт насельніцтва. Калі «Лявоніха» прыязджае ў вёску, яе акружае натоўп аматараў і паклоннікаў. Сярод іх крыклівая дзетвара, моладзь і дзядулі. «Лявоніха» ўсім падбіла сэрцы.

Нядаўна мне давялося паехаць з «Лявоніхай» на канцэрт у Трасцянку. Жыхары Трасцянкі належаць да людзей цвёрдых і патрабавальных. Іх абы чым не задаволіш. Да таго яшчэ эстрада на паўтары гадзіны спазнілася на гэты канцэрт. Каля вёскі Пухлы застрагла наша машына. Толькі пры дапамозе ветлівых жыхароў Пухлаў артысты выцягнулі самаход і даехалі ў Трасцянку.

Прызнаюся па шчырасці, што я сумняваўся, ці ў такіх умовах збярэцца адпаведная колькасць гледачоў. Сумненні мае зусім не апраўдаліся. Зала была перапоўнена жыхарамі Трасцянкі. Яны хоць і чакалі паўтары гадзіны даўжэй, але верылі, што «Лявоніха» прыедзе. І «Лявоніха» не падвяла. Таму воплескам і гарачай авацыі не было канца ў час яе выступленняў.

На працягу сваёй гадавой дзейнасці калектыў «Лявоніхі» шмат зрабіў у галіне развіцця беларускай культуры сярод нашага беларускага асяроддзя. Ён у многіх выпадках пазнаёміў і палякаў з нашай культурай. Працай сваёй садзейнічаў замацаванню яшчэ больш цеснай дружбы і сужыцця паміж польскім і беларускім насельніцтвам нашай краіны. Добрую справу робіць «Лявоніха». Таму ў першую гадавіну яе існавання хочацца пажадаць тален вітаму і адданаму ў працы калектыву далейшых поспехаў у яго творчай дзейнасці.

В. Баршчэўскі

фота: Г. Рагазінскі

## ФАЛЬКЛОР БЕЛАСТОЧЧЫНЫ

### ПАСАДЖУ Я КВАСОЛІНУ

Пасаджу я квасоліну,
Сама йду да дому,
А мой мілы чорнабрывы
П'е ў карчме з кумою.

Ой, не добра, не хораша,
Мой міленькі, робіш,
Як дзень, як ноч п'янюсенькі
Ты з кумою ходзіш.

Годзе, мілы чорнабрывы,
Ты з кумою піці,
Ой, хадземо да доманьку
Вячэру варыці.

Запісаў Павал Грыгарук з Галадоў ад Ясюк Насці, 65 год.



А гэта эстрадныя «скакуны» — Чэся Сілівончык і Янка Крупа.

У пакоі запанавала цішыня. Толькі аднастайна цікаў гадзіннік у куце.

— Ну скажыце, Таня, — прасіў ён яе, як дзіця.

Таня стаяла збянтэжаная. Не разумела, чаму так хвалюецца, калі гаворыць з ім, і злавалася на сябе: чаму яна такая?

Не паднімаючы галавы, яна сказала:

— Рэпкін.

Налепка выпрастаўся, як па камандзе, стукнуў абцасамі, і вочы яго загарэліся;

— Слухаю, Таццяна Івакаўна, — казырнуў ён і ўсміхнуўся. — Рэпкін!

— Вы сапраўды згодны? — спытала Таня. — А ведаеце, адкуль я ўзяла гэта? Нейк вы казалі, што ў вас гавораць: славак нібы рэпа. Памятаеце?

Налепка не адказаў. Толькі цёплая ўсмешка прабегла па яго твары. Тані гэтай усмешкі было даволі. Яна адразу зразумела, што Налепка паказвае людзям толькі тое, што хоча. А ў яе адразу ўсё можна прачытаць па твары. Таня зайздросціць яму ад усяго сэрца.

— Мне трэба ісці ў дэпо, — сказала Таня.

Яна зусім разгубілася, калі Налепка сеў на крэсла.

— Пачакайце, Таня, — сказаў ён сур'ёзна. — Мне ніколі не даводзіцца пагаварыць з вамі.

Дзверы адчыніліся, і ў пакой зазірнуў ардынарац Налепкі Бэнка.



— Пане капітан, мяне паслаў да вас Паўлік, — задыхаўшыся, сказаў ён, кінуўшы недаверлівы позірк на Таню.

— Можаш гаварыць, — падышоў да яго Налепка, і Бэнка зашаптаў:

— Нямецкі маёр ведае, што вы там былі.

Сэрца Налепкі моцна застукала. Ён папрасіў прабачэння ў Тані за тое, што павінен зараз жа ісці, і пакрочыў за ардынарцам.

Налепка ўвайшоў у пакой, не падаўшы обер-лейтэнанту рукі. Яго поўны нянавісці позірк спыніўся на бледным твары Браўніса.

— Ваш камандзір ведае пра нашу начную справу, — сказаў, не спускаючы з яго вачэй, Налепка. — На мяне ўсё звалілі.

— Не, капітан, — пакруціў галавой Браўніс і пачырванеў. — Я сказаў яму, як мы дамовіліся з вамі, што мы прыйшлі ў астрог, калі ён быў ужо адчынены.

Обер-лейтэнант Браўніс бегаў ля стала, як леў у клетцы. Ён заламаў рукі за спіну, сцяў зубы, нібы хацеў задушыць у сабе змешаную са злосцю роспач. Дарэмна Налепка ўчора яго запэўніваў, што пакуль ён гаварыў з вартавым, Браўніс выпусціў партызан.

Тады ён быў п'яны і нічога не памятаў. Але нібы праз сон, яму здавалася, што яго падбіў на гэта Налепка. У душу яго закралася сумненне.



— Чорт яго ведае, хто з нас у гэтым вінаваты.

— Не прыкідвайцеся, обер-лейтэнант, — сказаў Налепка, — я быў зусім цвярозы.

— Вас і сам чорт не разбярэ, — паціснуў ён плячыма.

— Налепка махнуў рукой.

Навошта гэта камедыя, обер-лейтэнант? Скажыце лепш, хто мяне прадаў?

— Памятаеце, я гаварыў вам пра таго Біненку? Гэта ён прынёс маёру ананімнае пісьмо, у якім паведамлялася, што мы былі там уначы.

— Біненка, Біненка... — паціху паўтарыў Налепка.

Ён устаў, развітаўся з Браўнісам і выйшаў на вуліцу.

Вузкай вулачкай ён прайшоў да будынка, дзе знаходзіўся штаб палка. Так! Імя правакатара ён ужо ведае. Браўніс учора казаў, што Біненка працуе ў чыгуначным дэпо. Ён здраднік, і яго трэба знішчыць.

Са штаба палка выйшаў паручнік Паўлік. Засунуўшы рукі ў кішэні, ён ціха пасвістваў. Заўважыўшы Налепку, заспяшаўся яму насустрач і ўсхвалявана пачаў:

— Яне, ты ведаеш, чым мы сёння займаемся? Мы праводзім спаборніцтва паміж нямецкай і тутэйшай інтэлігенцыяй. Мясцовыя выйграюць. Што ты гля-

(Працяг на стар. 7)

